

Помнік Пушкіну ў Маскве.

**6** чэрвеня мінае 160 год з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна — самага вялікага рускага паэта. Пушкін славіцца ва ўсім свеце. Ён блізкі і дарагі ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву таму, што яго творчасць сугучна іх самым запаветным пачуццям — непарушнай веры ў сілу розума, у перамогу прагрэсу. Яго вершы гучаць на многіх мовах свету. Яму ўстаноўлены помнікі не толькі ў Расіі, але і за яе межамі, у гарадах Шанхаі (Кітай), Веймары (Германія), Бургасе (Балгарыя).

Святкуючы гэту знамянальную дату, замест кветак пад помнік паэта, мы нясем яму свае пачуцці, складаем падзяку за хваляванні, якія перажываем, чытаючы яго вершы.

А. Пушкін

# ПОМНІК

Я помнік сам сабе узнёс нерукатворны,
Туды не зарасце народная трапа,
Вышэй узняўся ён вяршыняй непакорнай
Александрыйскага слупа.

Не, ўвесь я не памру — душа не стане прахам,
У ліры дарагой свой захавае жар, —
І слаўны буду я, пакуль пад Млечным шляхам
Жыў будзе хоць адзін пясняр.

Пачуюць пра мяне па ўсёй Русі вялікай,
І кожны назаве той моваю, што звык.
І горды ўнук славян, і фін, і зараз дзікі
Тунгус, і стэпаў друг калмык.

І доўга буду я за тое люб народу,
Што ў сэрцах добрае я лірай абуджаў,
Што ў жудасны мой век уславіў я свабоду
І літасць к занядбаным зваў.

Нябёсаў голасу, о муза, будзь паслушна,
Не бойся крыўд, вянца не вымагай,
Паклёпы і хвалу выслухвай непарушна
І спрэчкі з блазнам не прымай.

Пераклад М. Лужаніна

Цэна 60 гр. Цана 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 23 (171) БЕЛАСТОК. 7 ЧЭРВЕНЯ 1959 года ГОД IV

## Стварэнне Прамыслова-гаспадарчага праўлення «Betesca»

На апошнім пленуме ГП БГКТ, які, як мы ўжо пісалі, адбыўся 24 мая г. г., створана Прамыслова - гаспадарчае праўленне «Betesca». Пленум зацвердзіў таксама рэгулямін «Betesci». Паводле гэтага рэгуляміна Прамыслова - гаспадарчае праўленне «Betesca» з'яўляецца грамадскім органам БГКТ у галіне гаспадарчай дзейнасці Таварыства і адказвае непасрэдна перад Пленумам ГП БГКТ.

Заданнем Прамыслова-гаспадарчага праўлення з'яўляецца апрацоўка канцэпцыі, праграмы і заданняў гаспадарчай дзейнасці, зацвярджэнне напрамкаў арганізацыйных работ, палітыкі кадравай і фінансавай, аналізаванне гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў, нагляд і каардынацыя гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў, зацвярджэнне балансаў прадпрыемстваў і інш.

**У** склад Прамыслова-гаспадарчага праўлення ўвайшлі: Баравік Міхась, Ластаўка Пётр, Майсеня Кастусь, Навіцкі Уладзімір, Садоўскі Хвёдар, Сідаровіч Кастусь, Туронак Юры, Хлябіч Кастусь і Ювзюк Уладзімір.

Старшынёй Праўлення «Betesci» выбран Пётр Ластаўка, а яго намеснікам Кастусь Сідаровіч.

## У Аддзеле БГКТ у Міхалове

У сераду, 27 мая, адбылося пасяджэнне Праўлення Павятовага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Міхалове. Абмеркавана справа падрыхтоўкі да павятовага агляду беларускіх мастацкіх гурткоў, які мае адбыцца ў нядзелю, 7 чэрвеня, у Міхалове.

Выбралі таксама новага старшыню Праўлення ў асобе Івана Азяблы.

(ся)

## Узнагароджанне дзеячоў Беларускага грамадска культурнага таварыства

**У нядзелю, 24 мая, у чытальні Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку адбылася ўрачыстасць уручэння грашовых узнагарод дзеячам культуры. Устанавіла іх Міністэрства культуры ў сувязі з Народным святам.**

**Між іншым, прэміямі па 1000 злотых узнагароджаны два дзеячы БГКТ за заслугі ў галіне развіцця артыстычнага руху. Гэта настаўніца Галя Карпюк са Шчытоў (Бельскі пав.) і настаўнік Аляксандр Закройшчык з Клейнік (Гайнаўскі пав.)**

**Жадаем ім далейшых поспехаў на ніве развіцця і прапаганды народнай культуры. (ся)**

## УДАЛЫ ВЕЧАР

19 мая ў Клубе міжнароднай кніжкі і друку ў Беластоку адбыўся літаратурны вечар, на якім сустрэліся з насельніцтвам горада члены літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі «Ніва» — Віктар Швед і Яша Бурш. Яны чыталі свае вершы і адказвалі на пытанні. Зацікаўленасць нашымі паэтамі была вялікая. Нягледзячы на цёплы, прыгожы вечар, усе месцы ў клубе былі заняты. Прысутнічала не менш 200 асоб.

Прысутныя вельмі цёпла прыймалі нашых паэтаў, жадаючы ім далейшых поспехаў у творчай працы.

Беластоцкі паэтычны вечар сведчыць, што трэба больш арганізоўваць такія сустрэчы, яны выдатна прычыняюцца да папулярызацыі нашай дзейнасці сярод цэлага польскага грамадства. Вечар арганізавалі Міжнародны клуб кніжкі і друку і гарадскі аддзел БГКТ.



Выступае Віктар Швед, побач, справа, Яша Бурш. Фота — Л. Каралеўскі

 

**ПРАФ. ДР. В. СЛАВІНСКІ — кіраўнік кафедры біялогіі Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку.**

# Доследныя работы вучоных на Беласточчыне

Працаўнікі кафедры біялогіі Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку і працаўнікі кафедры экалогіі*) Цэнтральнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве ў 1955 годзе пачалі шэраг доследных работ у нізінах рэк Супраслі, Нараўкі, а таксама на Райгродскім возеры і ставе ў Дайлідах пад Беластокам.

У нізіне ракі Супраслі праведзена свайго роду класіфікацыя сенажацей паводле іх раслліннага стану. Затым праводзяцца доследы над іх кармавой вартасцю, над ураджайнасцю паасобных тыпаў сенажацей. Усебакова разглядаюцца ўмовы, ад якіх залежыць ураджайнасць гэтых сенажацей - сенакосаў.

У будучым намечана меліярацыя нізін рэк Супраслі і Нараўкі. Таму гэтыя доследы вучоных будуць падставай для апрацоўкі правільнага, рацыянальнага праекта меліярацыі і асваення надрэчных абшараў. Нашай сельскай гаспадарцы неабходна павялічыць прадукцыю поўнавартасных кармавых траў і больш перайсці на жывёлагадоўлю. Хімічныя аналізы траў, глеб і вод укажуць нам прысутнасць або адсутнасць у глебе, вадзе ці траве вапны, жалеза, паташу, фосфару, ёду і г. д. Бо гэтыя складнікі маюць уплыў на здароўе жывёлы. Будзе таксама ўдакладнена, якія карысныя травы трэба вырошчваць.

Адбываюцца доследы над зарастаннем русла ракі Супраслі. Зарастанне моцна тармозіць адплыў вады і павышае яе ўзровень. Аказваецца, прычынай забалочвання ракі Супраслі не з'яўляюцца воды ракі, але падземныя воды, бедныя кіслародам і кармавымі складнікамі. Ёсць меркаванні, што аналізы некаторых торфаў у нізіне выявяць іх пэўныя лячэбныя ўласцівасці.

Доследы ў значнай меры растлумачаць прычыны і раёны нізкага ўлову рыб, іх хваробы і г. д.

Вышэй успомненыя доследы, якія праводзіць калектыў вучоных, з'яўляюцца першай такой спробай у Польшчы.

Іх заканчэнне прадбачваецца ў 1961 годзе: Прызначаныя на гэта сродкі вельмі мізэрныя і пакрываюць усяго палову коштаў утрымання і закватэравання. Таму і праца цяжкая.

Падобныя доследы адбываюцца і ў нізіне Нараўкі.

Доследы Райгродскага возера распачаты ў 1956 годзе ў сувязі з праектам выкарыстання вод гэтага возера для заліву Куваскіх сенажацей. Штомесяц праводзіліся доследы багацця ў водах мінеральных і арганічных складнікоў. Ад 1956 года пачаты доследы дна возера, расліннага і жывёльнага планктону, стану рыб, гатункаў рыб і г. д. Цікавымі з'яўляюцца доследы гістарычных змен возера на падставе асадкавых пакладаў дна ад часоў ледавіковага перыяду, змена воднай і берагавой раслліннасці. Хімічныя аналізы вод праводзяць мгр. Т. Башынскі і мгр. Завадскі. Доследамі воднай і берагавой раслліннасці займаюцца я. А аб стане рыб, расліннага і жывёльнага планктону праводзіць доследы мгр. Базыль Чачуга. Трэба падкрэсліць, што мгр. Б. Чачуга, дзякуючы сваёй няўтомнай працы і таленту мае тут вялікія дасягненні і заслугі для навукі і рыбацкай практыкі. Выдатна апрацаваў ён таксама біялогію стынкі і селявы, рэліктавых рачкоў, першабытную прадукцыю даследаванага возера і шэраг планктонавых гатункаў.

Беласточчына з'яўляецца вялікай і невычарпальнай скарбніцай для навуковых прац, доследаў. Адны доследы нараджаюць другія. Цяжка прадбачыць, якія яшчэ праблемы паўстануць перад нашым навуковым калектывам і што яшчэ нам шчаслівы лёс падкіне. Адно можна сказаць, што за такія абмежаваныя сродкі і магчымасці ўжо мы зрабілі многа — у некаторых справах нават больш, чым можна было спадзявацца.

З увагі на тое, што нашыя доследы датычаць Беласточчыны і маюць гаспадарчае значэнне, добра было б, каб і ваяводскія ўлады дапамаглі нам у нашай працы.

---

*) экалогія — навука аб уплыве на арганізм асяроддзя.

**Фальклор Беласточчыны**

## ЧЫ Я, МАМО, ПЕРЭРОС

Чы я, мамо, не дарос,  
Чы я, мамо перэрос,  
Чы не рублена хата,  
Што не любяць дзяўчата?

Ні ты, сынку, не дарос,  
Ні ты сынку перэрос;  
У цябе рублена хата,  
А не любяць дзяўчата.

Бо ты тонкі, высокі,  
І бязрэбры, і бязбокі,  
І без верхнёі губы,  
Не смяешся — відно зубы.

У цябе нос, як у бабы,  
У цябе очы, як у жабы,  
У цябе усы, як у рака,  
А сам рыжы, як сабака.

Запісала ЛЮБА КРАСОЎСКАЯ ў вёсцы Подваркі (Фальваркі Тыльвіцкія) Беластоцкі павет.

## Асветная камісія пры ГП БГКТ

23 мая ўтворана Асветная камісія пры Галоўным Праўленні нашага Таварыства ў Беластоку. У склад Камісіі ўваходзіць 9 асоб — дзеячоў беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Старшынёй з'яўляецца Мікалай Лебядзінскі — шматгадовы асветны дзеяч.

Першае пасяджэнне Асветнай камісіі адбудзецца ў чацвер — 25 чэрвеня. Абмяркуецца на ім актуальная сітуацыя ў нашым школьніцтве.

## „Rocznik statystyczny woj. białostockiego 1958 r."

Нядаўна вышаў з друку „Rocznik statystyczny woj. białostockiego 1958 r.", 250 старонак, цана 20 зл.

Статыстычны гадавік Беластоцкага ваяводства дае магчымасць пазнаёміцца з шырокім развіццём амаль усіх галін нашага грамадскага жыцця.

Шкада, што аўтары гэтай кнігі не змаглі ўключыць звестак аб існаванні нацыянальных меншасцей, ані словам не ўспамінаюць аб існаванні польскага і беларускага друку на Беласточчыне.

І ўсё ж гадавік з'яўляецца карысным дапаможнікам для ўсіх, хто вывучае развіццё эканомікі і цікавіцца грамадскімі справамі Польшчы. (мб)

## Карысная кніга

Зусім выпадкова трапіла мне ў рукі кніга вялікага фармату (29x20 см.), у аб'ёме 152 стр. пад назвай:

Marian Jurkowski — Problem kształtowania się kultury białoruskiej. Warszawa 1958 r. Instytut Polsko-Radziecki przy Zarządzie Głównym Przyjaźni Polsko-Radzieckiej.

Частка І: Беларуская культура да Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі.

Частка ІІ: Культура Савецкай Беларусі. Прачытаўшы гэтую кнігу, атрымліваем шчырую прыемнасць. Аўтар яе — М. Юркоўскі, як відаць, з любоўю аднёсся да пастаўленай перад сабой задачы. Не пашкадаваў працы, каб даволі грунтоўна асвятліць праблему фармавання беларускай культуры. Выхад у свет такой кнігі з'яўляецца фактам станоўчым. Літаратуры, закранаючай праблемы беларускай культуры, гісторыі беларускага народу, яго эканомікі ў форме манаграфічнай дасюль у Польшчы адчуваецца недахоп. Паяўляліся раней, паяўляюцца час-ад-часу і зараз паасобныя артыкулікі, але яны рассеяны па розных газетах і часопісах і ні ў якой меры не задавальняюць вялікага попыту на літаратуру інфармацыйна - энцыклапедычнага характару. Кніжка М. Юркоўскага якраз у вялікай меры спаўняе такое энцыклапедычна - інфармацыйнае заданне. Шкада толькі, што яна адбіта на гектографе ў невялікай колькасці, як быццам «на ўнутраныя патрэбы».

Пажадана, каб праца М. Юркоўскага была дапоўнена новымі матэрыяламі, каб былі выпраўлены недахопы, якія сустракаюцца ў ёй, і пасля кніга выйшла ў свет у новай «вопратцы» і большым тыражом. М. П.

**П. БАРАШАЎ і В. КІТАІН** 17)




**(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікамі П. Н. Сахаравым і Нагаевым).**

— Нік Ворд, амерыканец... — аднак ніякіх дакументаў не паказаў, ды гэтага ад яго і не патрабавалі.

Радыёсправу ў школе выкладаў амерыканец Дан — год дваццаці сямі. Гэты словаахвотны хлопец расказваў аб сабе многа. Да школы ваяваў радавым у Паўднёвай Карэі, але, дзякуй богу, — як ён не без радасці заўважыў аднойчы — шчасліва адтуль выбраўся, потым наведваў нават нейкі ўніверсітэт. Дан часта ў голас марыў аб тым лепшым часе, калі скончыцца «праца» ў школе і ён, сабраўшы капітал, вернецца, нарэшце, у Штаты...

Ішоў трэці месяц навучання Фіна і Бэна дыверсіям, забойству і шпіянажу. Не адзін раз пасля гульні ў пінг-понг яны выязджалі на палігон і да болі ў вачах расстрэльвалі адну за другой абоймы «вальтэраў» — доўгаствольных бясшумных пісталетаў амерыканскай прадукцыі.

У тыя дні стаяла яснае надвор'е, навокал, здавалася панавалі цішыня і спакой, і толькі за глухой агароджай на ўскраіне Кауфбейрана гэтыя двое ліхаманкава вучыліся пападаць у мішэнь, без памылкі біць нажом і без боязні ўскрываць ампулу са смяротным ядам.

Неяк яны сядзелі ў сваёй кватэры каля расчыненага акна. Бэн лістаў нейкі часопіс, Фін курыў, а Боб расцягнуўшыся ў крэсле, пацягваў віскі з содавай.

За акном на раскідзістай вішні чырванелі ягады, пад дрэвам дзве немкі вышчыпвалі пустазелле з градкі з радысам. Раптам на вішню апусцілася чарада вераб'ёў.

— Фін, спрабуй ты, як дзейнічае гэта штучка! — і захмялеўшы Боб працягнуў яму доўгаствольны пісталет бясшумнага дзеяння. Знімі пару вераб'ёў!..

Фін выстраліў. У пакоі раздаўся ціхі шчаўчок, падобны на гук раскрыўшагася партсігара, а адзін з вераб'ёў, разарваны на кавалкі, зваліўся каля немкі. Тая здзіўлена падняла вочы і ў той жа момант убачыла, як без усякай прычыны яшчэ адна птушка разляцелася ў шматкі і крывавым кавалкам звалілася на градку.

—Малайчына, Фін! — зарагатаў задаволены Боб.

Некалькі разоў да іх у школу прыязджаў інструктар, якога нават Віктар называў толькі па мянушцы «Сібірак». Гэты вялізны вярзіла са шрамам на шчацэ выводзіў Фіна і Бэна ў суседні лясок і там вучыў нячутна хадзіць, замятаць сляды, будаваць зямлянкі і распальваць вогнішча так, каб яны не дымілі і не гарэлі ярка ў начной цемры.

Аднойчы начальнік школы прыехаў да іх з двума хлопцамі.

— Джо і Карл, — прадставіў ён новых маўклівых незнаёмых. — На заданне вы пойдзеце разам, чацвёра. Прывыкайце адзін да другога...

Фін з першага ж дня не ўзлюбіў высокага, статнага Карла — хлопца год дваццаці шасці, з валявымі замашкамі чалавека, які прывык камандаваць. Карл лёгкай, крадучайся паходкай шныраў па дому, да ўсяго прыглядаўся падазрона і, калі хадзіў, нёс свае моцныя рукі так, як быццам бы гатовы быў скочыць на некага і сціснуць яму горла.

— Гэтага тыпа я ведаю! Сябра Рагулі. Ён доўга сярод эмігрантаў абціраўся, чытаў ім «лекцыі» пра бальшавіцкія зверствы! — сказаў неяк Бэн, калі яны засталіся ўдвух.

**(Працяг у наступным нумары)**



 




## У «вольным свеце»



— Будзь упэўнена, што цяпер я прысвячу больш часу табе і дзецям, бо мяне рэдукавалі.

(«Уол-Стрыт Журналь»)

### АДКАЗАЛІ

Адзін чалавек, праязджаючы праз Плюцічы спытаўся.

— Колькі кіламетраў можа быць да Бельска?

— Два з хвосцікам, — адказаў той яму.

— А колькі мае той хвосцік?

— Каля дзесяці, — адказаў плюцінскі селянін.

Прыслаў
А. СУПРУНЮК
Плюцічы, п. Страбля.
Бельскі пав.

### ПЫТАННЕ ПА ГРАМАТЫЦЫ

Малы Валодзя вывучае граматыку — час мінулы, цяперашні і будучы. Раптам пытае ў маці:

— Мама, які гэта час: бацька гуляе ў карты?

— Змарнаваны — адказвае маці. (кв)

### НЯЎЖО ЯНА ЎСТАНЕ?

Зыйшліся два суседы і размаўляюць між сабой.

Андрэй:

— Бачыш, суседзе, як хораша ўсё ажыўляецца, зелянее, вылазіць з зямлі.

Сцяпан:

— Ох, то ж я тыдзень таму пахаваў цёшчу, няўжо і яна ажывіцца і вылезе?.

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

Аднойчы бацька прынёс банку шмары і кажа:

— Ідзі, Вася, пашмаруй воз.

Вася ўзяў банку і пайшоў. Па нейкім часе вярнуўся з пустой банкай у руках.

— Ну, што пашмараваў? — пытае бацька.

— Пашмараваў, толькі на калёсы не хапіла.

Прыслала:
НАДЗЯ ІВАНЮК
в. Паўлы



# КАВАЛІ

Залатыя рукі ў каваля, таму няма чаго здзіўляцца людзям, якія любяць круціцца каля кузні. Здараюцца аматары, якія дапамагаюць кавалю раздуваць мех ці прабуюць сілы ў малатабойным майстэрстве. Кожны з нас захапляецца, бачачы, як у спрытных руках каваля жалеза ператвараецца ў воск, і розныя мудрагелістыя рэчы з гэтага жалеза атрымліваюцца.

Я дык думаў, кавалям ўсё ўдаецца, таму што яны часта на рукі паплёўваюць.

Папаўшы неяк у кузню, я храбра ўзяўся за молат, а каваль, прыжмурыўшы вока, агледзеў маю постаць і сказаў: «Кішка твая затонкая для гэтай справы!»

«Гэй, каваль! Глядзі, каб я тваё кавадла не разбіў», — папярэдзіў я, паплёўваючы на рукі.

«Станавіся пад рукою, ды бі ў тое месца, дзе мой малаток гуляе», — прапанаваў каваль, хапаючы шчыпцамі распаленую шыну.

Біў я, размахваў, а як шыну зварылі і я апусціў молат, каваль сказаў: «Цяпер свісні — малайцом будзеш!»

Спрабаваў я: дух выходзіць, а свісту не атрымліваецца — задышка перашкаджае. А каваль смяецца, падае кавалак дроту і кажа: «Дай прыкурыць!»

— Дзе запалкі? — пытаю я.

— Ад запалкі і дурань прыкурыць. — азваўся каваль, узяў дрот і давай абстукваць яго малатком, ды так спрытна, што дрот пачырванеў. Прыкурыў каваль ад гэтага дроту і гаворыць: «Як пуд солі з'ясі, прыходзь на пробу, а пакуль вымятайся з кузні, тут патрэбны рукі моцныя, грудзі магутныя, вочы арліныя!»

Цяпер я зразумеў, чаму кавалёў паважае ўся аколіца. Да іх нават і коні з павагай адносяцца.

Звярніце ўвагу, мілыя чытачы, як конь, падыходзячы да кузні, вышэй задзірае галаву і ноздрамі шавеліць. Ганарыцца ён, разумее жывёліна, што выйдзе адсюль з новымі падноскамі, моцнымі, на жалезным ходзе.

У сельскай гаспадарцы каваль, як доктар, ад многіх хвароб вылечвае.

Новыя зубы баране ўставіць, моцнае вуха да касы прыварыць, бліскучы нос да плуга прыробіць, і плуг будзе зямліцу, як масла, рэзаць.

Зразумела, не кожная вёска кавалём хваліцца. Магчыма, кавалёў бракуе, а, можа, няма каму мех расцягваць, ці проста кандыдаты ў кавалі не паспелі з'есці пуда солі, хто ведае? Але факт застаецца — кавалёў у нас малавата.

Праўда, многія ўмеюць каваць языком, замест мяхоў — раздуваюць непаразуменні сярод суседзяў, вараць справы ад якіх молат а робіцца, але такіх кавалёў людзі добрыя бокам абыходзяць.

*Дзядзька Лявон*



**Гэзмы каля парэднога пад'езда**

— Цікава: дзе пазнаёмілася мая рара... з маёй апошняй жонкай?

### ПРОСЬБА

— Тата, купі мне трубку.

Маё дзіця ты будзеш трубіць мне пад вухам і я нічога не зраблю за табою.

— О не, тата, я буду трубіць толькі тады, калі ты спаць будзеш.

Зінаіда КАРПОВІЧ
Страшава
Беластоцкі павет

### ЛЯ БІЛЕТНАЙ КАСЫ

Пасажыр:

— Прашу білет!

Касір:

— Куды?

Пасажыр:

— А вам што да таго?

Касір:

— Я мушу ведаць, куды едзеце, каб даць білет.

Пасажыр (са злосцю):

— Еду да маёй нарачонай.

Прыслаў
Г. ЯКАНЮК
Дубічы Царк.
Гайнаўскі павет

### НА ПАЖАРЫ

У вёсцы загарэўся дом старой бабулькі. Людзі прыйшлі ратаваць яго, а бабуля ў прыліве шчырасці кажа:

— Дзякую, дзякую вам. Каб Бог даў у вас загарэўся дом, то і я прышла б пасобіць.

Прыслаў
ЛЕНЯ ШХАНЮК
VI клас
вёска Лушчы
Гайнаўскі павет



«Тысяча» (вясковы брыдж) на свежым паветры.

## Частушкі з Ласінкі

Як праводзіць час культурна,
Каб не нудзілася нам?
Вы заедзьце у Ласінку —
Растлумачаць усё там.

У нядзелю, ці так святам,
Як няма чаго рабіць,
Там у карты людзі шпараць,
Што аж пара з іх клубіць.

То у «тысячу», то у «дурня»,
А ў качцы давай ў «очко»
І эту йгру яны так любяць,
Нібы свежа малачко.

І пайдуць ў рух залатоўкі,
Толькі бразгае метал,
Ужо пайшлі дзесяткі, сотні.
А за імі і скандал.

А ад сваркі ды да бойкі
Недалёка тут зусім.
А пачатак ў чым? У картах,
Як вядома нам усім.

Ласінчане, я вам раю —
У час вольны ад турбот,
Вы вазьміцеся за кніжку, —
Стане іншы з вас народ!

...А

### Паміж майстрамі



— Біце, чаго чакаеце?
— Змены.